# Голас Радзімы

220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Цана 17000 рублёў.

25 ЛЮТАГА 1999 ГОДА
№ 8 (2618)

Штотыднёвая газета
для суайчыннікаў за межамі Беларусі.
Выдаецца з 1955 г.


ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

## ЛЯ ВЫТОКАЎ АЙЧЫННАЙ КНІЖНАСЦІ...

**ПРА XII МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС СЛАВІСТАЎ, ЯКІ АДБЫЎСЯ Ў КРАКАВЕ, ЖУРНАЛІСТ ГАЛІНА ШАБЛІНСКАЯ ГУТАРЫЦЬ З ЯГО ЎДЗЕЛЬНІЦАЙ КАНДЫДАТАМ ФІЛАЛАГІЧНЫХ НАВУК, СТАРШЫМ НАВУКОВЫМ СУПРАЦОЎНІКАМ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ АЛЕНАЙ ЯСКЕВІЧ.**



● **Галіна ШАБЛІНСКАЯ**, *журналіст.*

**Працуе на Беларускім радыё з 1985 года. Вядзе аўтарскія праграмы "Крылы" (гісторыка-культурнага кірунку), "Дыялог над разгорнутай кнігай" (знаёмства з кніжнымі навінкамі праз гутаркі з іх аўтарамі), цыкл перадач "Спрадвечная ахоўніца Беларусі" (пра іконы Божай Маці), з'яўляецца рэдактарам літаратурнай перадачы "Нанава" (пераасэнсаванне лепшых твораў айчыннай класікі), радыёклуба "Жывое слова". Спрабуе сябе ў жанры "Паэтычны радыётэатр".**

**Адначасова друкуецца ў перыядычных выданнях. Запісала ўспаміны пра Уладзіміра Караткевіча сястры пісьменніка Н. Кучковай "З табой мы адны перад богам" і яго студэнцкіх сяброў Ф. Няўважнага і М. Сняжко.**



● **Алена ЯСКЕВІЧ**, *кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, дацэнт-дактарант.*

**Нарадзілася ў 1971 годзе. Скончыла філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта на "выдатна", была імянным стыпендыятам. У 1994 абараніла кандыдацкую дысертацыю.**

**Аўтар 9 кніг, у тым ліку: "Старабеларускія лексіконы" (1992), "Старабеларускія граматыкі", "Праблема цэласнасці старабеларускай філалогіі XVI—XVII стагоддзяў: адзінства экзэгезы і германэўтыкі" (1996), "Канстанцін Канстанціновіч Астрожскі", "Спадчына Івана Ужэвіча і славянскія літаратуры" і інш.**

**Лаўрэат прэміі НАН Беларусі за цыкл кніг "Словам скароны свет" і "Творы Ф. Скарыны: жанравая структура, філасофскія погляды, мастацтва слова". У 1998 годзе адзначана Міжнароднай прэміяй імя А. Міцкевіча за цыкл публікацый у айчынным і замежным друку ў галіне крытыкі і паэзіі.**

*— Алена, тэма нашай гутаркі — вытокі айчыннай традыцыі пісьменства. Што мацуе беларускі дух у свеце, скуль яго карані? Сярод іншых постацей, якія прычыніліся да гэтай высакароднай справы, — вядомы беларускі філолаг XVII стагоддзя Іван Ужэвіч. Яго жыццё пэўны час было звязана са старажытным Кракавам, гістарычнай мясцінай трывалага беларускага асяродка...*

— Сапраўды, спрадвеку велічнае места Кракаў, старажытная сталіца аб'яднанай дзяржавы Рэчы Паспалітай і Вялікага княства Літоўскага, было апірышчам і беларускага духу. Гэтыя традыцыі пачалі закладвацца яшчэ з XIV стагоддзя, з часу падпісання дынастычнага шлюбу-уніі паміж 12-гадовай каралевай польскай Ядвігай і 38-гадовым вялікім князем Ягайлам. Варта спыніцца на асобе самой каралевы Ядвігі і на Кракаўскім універсітэце, які найперш і найбольш быў крыніцай беларускага духу. Тут існавала беларуская калонія, землячства выхадцаў з ВКЛ. І патронкай, як лічаць католікі, нават духоўным светачам гэтага універсітэта была каралева Ядвіга. Старажытныя сцены знакамітага кракаўскага Вавеля, архітэктурнага ўвасаблення нашай супольнай беларуска-польскай гісторыі, захавалі згадкі пра вельмі няпросты і трагічны лёс гэтай маладой каралевы, якая вымушана была ахвяраваць сваім моцным пачуццём, каханнем да нямецкага прынца Вільгельма Габсбургскага і пайсці на няпросты дынастычны шлюб. Галоўнай дзеяй яе жыцця, за што і лічаць яе святой, стала заснаванне Кракаўскага універсітэта. Праз год пасля трагічнага адыходу каралевы ў сценах універсітэта ўжо пачалося навучанне. Знамянальны факт: калі ў 1949 годзе астанкі пахаванай на Вавелі каралевы ўскрылі з мэтай праслаўлення, спецыялісты заўважылі: ніякіх кляйнотаў на целе каралевы не было, толькі скураная карона з пазалотаю. Усе свае каштоўнасці, уласныя багацці, родавыя дыяменты гэта жанчына незвычайнай прыгажосці ахвяравала на стварэнне Ягелонскага універсітэта ў Кракаве, які павінен быў мець у сваім складзе звыш трох традыцыйных факультэтаў, па запавеце каралевы, абавязкова чацвёрты — багаслоўскі.

*— Летась у Кракаве праходзіў XII Міжнародны з'езд славістаў. Вы былі ўдзельніцай гэтага кангрэса. Са згаданых вамі даўніх часоў па сённяшні дзень як шануецца і зберагаецца там беларуская традыцыя? І адпаведна, у яе рэчышчы, што вы скажаце пра сам з'езд?*

— Кракаў — горад незвычайны, кожны беларус у ім адчувае сябе як на сваёй духоўнай радзіме, як у горадзе-мары, горадзе-гарэзіі. Там пануе нейкі асаблівы дух павагі і любові да кожнага чалавека, сівыя муры, гатычная архітэктура, старажытныя трыдцыі айчыннай кніжнасці, бо вельмі часта на сценах многіх будынкаў сустракаюцца скульптурныя выявы славутых дзеячаў польскага, славянскага, у тым ліку беларускага, пісьменства. Гэта выхоўвае не толькі кракавян, але і асаблівым чынам усіх, хто наведвае гэты старажытны горад. Тое здарылася і з удзельнікамі XII Міжнароднага кангрэса славістаў.

Трэба сказаць, што з'езд славістаў — своеасаблівая алімпіяда раз на 5 гадоў для гуманітарыяў не толькі Еўропы, але і ўсяго свету. Было заяўлена звыш 1 000 дакладаў, а прачытана 800. Гэты колькасны склад, сапраўды, уражвае. Працавалі секцыі: этнагенезіс славян, палеаславістыка, моўныя кантакты, канфрантатыўныя даследаванні і тыпалогія моў, арэальныя даследаванні славянскіх моў, анамастыка, стан дыялектаў, значэнне славянскага моўнага матэрыяла для тэорыі мовы, славянская міфалогія, археалогія, фальклор, літаратуры Сярэднявечча і іх кантэксты, гуманізм і барока ў славянскіх літаратурах, славянскія літаратуры XVIII і XIX стагоддзяў, славянскія літаратуры ад мадэрнізму да сучаснасці, постмадэрнізм у славян і на Захадзе,

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ПРЫЕМНАЯ НАВІНА

*Апошняя кропка на чэмпіянаце свету па біятлону, які прайшоў у Фінляндыі, была пастаўлена менавіта беларусамі. Аляксей Айдараў, Пётр Івашка, Вадзім Сашурын і Алег Рыжанкоў заваявалі "золата" ў эстафеце 4×7,5 кіламетра.*



## Пётр ІВАШКА: У СПОРЦЕ, ЯК І Ў ЖЫЦЦІ, ЧОРНА-БЕЛАЯ "ДОШКА"

Знайсці па тэлефоне Пятра Івашку давялося аж у гарадку Сянно Віцебскай вобласці, дзе жывуць бацькі "наваспечанага" чэмпіёна свету.

— Толькі-толькі ў хату ступіў, і тут — ваш званок, — шчыра прызнаўся Пётр. — Я ж дома толькі перад Новым годам быў, а зараз вось далі магчымасць некалькі дзён адпачыць.

— Як сябе адчувае чэмпіён свету?

— На сёмым небе! Хоць, па праўдзе кажучы, да гэтага часу ў перамогу яшчэ слаба верыцца.

— На якое месца ў эстафеце разлічвалі?

— Рэальна? На месца ў тройцы прызёраў.

— Напярэдадні чэмпіянату пытанняў у нашых трэнераў наконт таго, каго ставіць на эстафету, не ўзнікала толькі ў дачыненні да Айдарава, Рыжанкова і Сашурына. Чацвёртая вакансія была за вамі і Іванам Песцеравым...

— Так, аднак Ваня не бегаў на стартавых гонках, а я паказаў для сябе нядрэнныя вынікі, таму, напэўна, трэнеры і спыніліся на мне.

— І, як бачым, не пралічыліся. Вы цудоўна прабеглі другі этап.

— Дзякую, хоць да гэтага, як кажуць, папсаваў мне шмат крыві фінскі мароз. Вінтоўка не прыстрэльвалася, хоць каравул крычы. Ледзь-ледзь падабралі патроны. Добра яшчэ, што падчас эстафеты пацяплела, таму я быў упэўнены, што адстраляюся добра.

— Пётр, калі каманда паверыла ў тое, што ў "кішэні" нашай зборнай залатыя медалі?

— Толькі пасля таго, як Алег Рыжанкоў перасек фінішную лінію. Ведаеце, у нас ёсць таксама свае прыкмхі, і калі раней часу пачынаеш святкаваць перамогу, па нейкаму д'ябальскаму закону яна абавязкова выслізне з вашых рук.

— Пасля перамогі...

— Вядомая справа, адразу ж наляцелі журналісты — пачалі браць інтэрв'ю. Добра яшчэ, што Вадзік Сашурын англійскую мову ведае — перакладаў. Вечарам таксама сабраліся разам, выпілі па келіху шампанскага, калег-дзяўчат падтрымалі, а то яны зусім раскіслі ад няўдачы. Слёз — як вады ў Атлантычным акіяне. Ну і, натуральна, павіншавалі нас гаспадары атэля, у якім мы жылі. Так звыкліся з намі, што, здаецца, хварэлі за нас больш, чым за сваіх землякоў. У дзень нашай перамогі... плакалі. За наша "золата" і частавалі ўласнаручна спечанымі пірагамі.

— Фаіна Сцяпанаўна, ваша маці, напэўна, таксама будзе адкорліваць чэмпіёна пірагамі...

— Не без гэтага. Хоць, як кажуць, спакой нам толькі сніцца. Праз два дні з зноў еду ў Мінск і пачынаю трэніравацца.

— Што ж, яшчэ раз вас з цудоўнай перамогай!

**Алесь СІВЫ.**

# Тыдзень: Міжнародны агляд. Фотафакты. Хроніка падзей.

● Юрась ДОМНІЧ.

## БЕЛАРУСІ ЗНОЎ АКАЗАНЫ ДАВЕР

У штаб-кватэры ААН у Нью-Йорку завяршылася арганізацыйная сесія Эканамічнага і Сацыяльнага Савета ААН 1999 года, на пасяджэнні якой пастаянны прадстаўнік Рэспублікі Беларусь пры ААН Аляксандр Сычоў быў абраны на пасаду намесніка старшыні ЭКАСАС на другі тэрмін запар.

Паводле інфармацыі прэс-службы беларускага МЗС, кандыдатура пастаяннага прадстаўніка Беларусі была адобрана і прапанавана Савету Усходнееўрапейскай рэгіянальнай групай. Перад удзельнікамі сесіі выступіў Генеральны сакратар ААН Кофі Анан. Зацверджаны парадак дня асноўнай сесіі ЭКАСАС на 1999 год.

## ПАТРЭБНЫ МІЖНАРОДНЫ ВОПЫТ У ФІНАНСАВАЙ ГАЛІНЕ

У адпаведнасці з запрашэннем Міністэрства фінансаў Беларусі на працягу некалькіх дзён у беларускай сталіцы знаходзіўся з візітам прадстаўнік Сусветнага банка (СБ) Марк Дэвіс, эканаміст па Рэспубліцы Беларусь і Рэспубліцы Малдова. Асноўная мэта візіту спадара Дэвіса — абмеркаванне мадэлі кароткатэрміновага прагназавання дзяржаўнага доўгу. Даная мадэль цяперашнім часам паспяхова прымяняецца ў Расіі і на Украіне. У прыватнасці, 16 лютага прайшоў практычны семінар-прэзентацыя мадэлі прагназавання дзяржаўнага доўгу для супрацоўнікаў Міністэрстваў эканомікі, фінансаў, Нацыянальнага банка, звязаных з прыцягненнем і абслугоўваннем замежных крэдытаў у Беларусі.

Некалькімі днямі раней па запрашэнню Міністэрства замежных спраў Мінск наведаў намеснік дырэктара Міжнароднага інстытута развіцця права (Рым) Паскуале Ферара. Падчас візіту ён сустрэўся з прадстаўнікамі МЗС, Міністэрства эканомікі, Міністэрства фінансаў і Міністэрства юстыцыі, а таксама са спецыялістамі банкаўскіх і фінансавых структур, дзяржаўных і недзяржаўных навучальных устаноў краіны. Мэтай сустрэчы было абмеркаванне магчымасці арганізацыі ў сталіцы Беларусі ў межах праекта Цэнтральна-Еўрапейскай Ініцыятывы (ЦЕІ) вучэбнага семінара па розных галінах міжнароднага фінансавага заканадаўства. Як стала вядома пасля заканчэння візіту, ініцыятыва атрымала адабрэнне, і семінар мае адбыцца ў канцы мая гэтага года.

## РАЗВІВАЮЦЦА АДУКАЦЫЙНЫЯ ПРАГРАМЫ ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І ВЯЛІКАБРЫТАНІЯЙ

Своеасаблівыя вынікі адукацыйных праграм Брытанскага Савета для беларусаў былі падведзены днямі ў пасольстве Злучанага Каралеўства ў Мінску. Тут была арганізавана сустрэча айчынных спецыялістаў, якія праходзілі стажыроўку і атрымлівалі адукацыю ў Вялікабрытаніі.

Дзякуючы дзейнасці пасольства і Брытанскага Савета, такую магчымасць, пачынаючы з 1993 года, выкарысталі 58 чалавек. У асноўным гэта фінансісты, юрысты, эканамісты, спецыялісты ў галіне камп'ютэрнай справы. Асобныя праграмы былі прадугледжаны для палітыкаў і для прадпрымальнікаў. Але на гэтым дзейнасць англічан не спыняецца. Праграма партнёрства паміж навучальнымі ўстановамі Беларусі і Вялікабрытаніі, якая фінансуецца фондам "Ноу хау", атрымала працяг. Зараз у Брытанскі Савет паступіла 12 праектаў ад розных вышэйшых навучальных устаноў Беларусі.

Дарэчы, на гэтай сустрэчы пасол Вялікабрытаніі ў Беларусі спадарыня Джэсіка Пірс паведаміла, што ў сакавіку заканчваецца тэрмін яе паўнамоцтваў і яна ў хуткім часе пакіне Мінск.

## ЯКОЙ БУДЗЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЯ ПРАСТОРА БЕЛАРУСІ І РАСІІ

Гэтае пытанне непакоіць у тым ліку і многіх нашых чытачоў, якія пражываюць у Расіі, але не могуць свабодна выпісаць газету. Таму ўвага да сумеснага пасяджэння калегій Дзяржаўных камітэтаў па друку Беларусі і Расіі, якое адбылося ў Мінску, была відавочная. Аб выніках перамоў журналістам расказалі кіраўнікі двух ведамстваў Міхаіл Падгайны і Іван Лапцеў на адпаведнай прэс-канферэнцыі.

Як адзначыў Іван Лапцеў, хоць паміж Беларуссю і Расіяй ліквідаваны многія бар'еры, у тым ліку і мытныя, тым не менш, інфармацыйная граніца па-ранейшаму існуе. Нязначна паўплывала на гэта і мінулагодняе міжурадавае пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне друку. Пры рэалізацыі гэтага дакумента і беларускі, і расійскі бакі сутыкнуліся са шматлікімі перашкодамі — заканадаўчымі, эканамічнымі і нават псіхалагічнымі. Каб іх пераадолець, на гэтым пасяджэнні быў выпрацаваны шэраг прапаноў, з якімі кіраўнікі Дзяржаўных камітэтаў па друку маюць намер звярнуцца да прэзідэнтаў і парламентаў дзвюх дзяржаў, а таксама ў Выканком Саюза Беларусі і Расіі.

Іван Лапцеў паведаміў, што цяпер самай актуальнай праблемай для яго з'яўляецца пытанне цэн. Паводле яго слоў, пасля фінансавага абвалу 17 жніўня накаўт атрымалі як кніжны, так і газетны комплексы, якія апынуліся на мяжы разарэння. Вынікі крызісу ў поўнай меры адчулі на сабе і беларускія выдаўцы, таму, як сказаў Міхаіл Падгайны, гэта праблема і ў нашай краіне — першачарговая. Але акрамя таго, падкрэсліў старшыня Дзяржкамдруку Беларусі, неабходна як мага хутчэй зрабіць так, каб у расійскіх кіёсках свабодна прадавалася беларуская прэса, каб чытачам была даступная любая літаратура, што выпускаецца ў Беларусі і Расіі.



З 10 па 11 лютага Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка зрабіў паездку ў Рэспубліку Комі Расійскай Федэрацыі. У ходзе візіту адбылася сустрэча Аляксандра ЛУКАШЭНКІ з беларускай дыяспарай.




16 лютага, у 8 гадзін раніцы, у Рэспубліцы Беларусь пачаўся перапіс насельніцтва. У перапісным аддзеле № 1 Ленінскага раёна горада Мінска пачалі працу 38 перапісчыкаў і 8 інструктараў-кантралёраў. Кожнаму перапісчыку прыйдзецца апытаць ад 300 да 500 мінчан і запоўніць перапісныя лісты.



Традыцыйны міжнародны конкурс спартыўнага бальнага танца "Сняжынка-99" прайшоў у Віцебску. Каля 200 пар з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы і Латвіі спаборнічалі за права быць лепшай.



Гомельскай конна-спартыўнай школе, якая па сутнасці стала роданачальніцай беларускага коннага спорту, споўнілася 40 гадоў. Гонарам яе з'яўляецца зімні манеж, аналагаў якому няма ў іншых краінах СНД.

*На здымку: спартсмены Алена БЫЧКОЎСКАЯ і Таццяна МУРАЎЁВА на трэніроўцы.*

**Фотахроніка БЕЛТА.**

### ● СПАДЗЯВАННІ НА АТРЫМАННЕ КРЭДЫТУ НЕ ЗНІКАЮЦЬ

На працягу двух тыдняў у Мінску знаходзілася чарговая місія Міжнароднага валютнага фонду, члены якой правялі перамовы з кіраўніцтвам урада і Нацыянальнага банка Беларусі. Аднак канкрэтныя вынікі дыялога пакуль не абвяшчаюцца. Што да выдзялення Беларусі надзвычайнай кампенсацыйнай пазыкі (гэтае пытанне апошнім часам застаецца галоўным на перамовах), то яе лёс, відавочна, будзе вырашацца ў сярэдзіне сакавіка, калі эксперты МВФ зноў прыедуць у беларускую сталіцу. Тады ж прадстаўнікі ўрада краіны паспрабуюць "закінуць вудачку" і адносна перспектыў выдзялення Беларусі крэдыту стэнд-бай.

### ● ЗНЕШНІ ДОЎГ БЕЛАРУСІ РАСЦЕ

Запазычанасць Беларусі за энергарэсурсы перад Расійскай Федэрацыяй павялічылася за 1998 год на 229,1 мільёна долараў ЗША і склала на пачатак гэтага года 449,3 мільёна долараў ЗША. З агульнай квоты запазычанасці доўг за газ склаў 383,9 мільёна долараў, за электраэнергію — 53,6 мільёна долараў, нафту і нафтапрадукты — 11,8 мільёна долараў. Пратэрмінаваная запазычанасць за энерганосьбіты перад Расіяй на 1 студзеня 1999 года склала 401,9 мільёна долараў і павялічылася за 12 месяцаў 1998 года на 306,1 мільёна долараў.

### ● РУБЛЁВАЯ МАСА ЗМЯНШАЕЦЦА

Паводле паведамленняў Нацыянальнага банка Беларусі, у студзені 1999 года грашовая маса ў краіне была зменшана на 1,6 працэнта. Гэта адбылося за кошт скарачэння колькасці наяўных грашовых сродкаў у абарoце, укладаў "да запатрабавання" і адначасовага росту тэрміновых дэпазітаў. Нацбанк краіны, такім чынам, узяўся за мэтанакіраванае скарачэнне колькасці беларускіх рублёў, каб выправіць становішча ў галіне курсаўтварэння. У сувязі з гэтым найбольш прынцыповай і радыкальнай з'яўляецца заява Нацыянальнага банка, што сёлета будзе адменена практыка правядзення вясенне-палявых работ за кошт эмісійных рэсурсаў, якая выкарыстоўвалася на працягу некалькіх апошніх гадоў. Сельская гаспадарка цяпер застаецца без пустых грошай, якія раскручвалі махавік інфляцыі, і вымушана будзе разлічваць на іншыя крыніцы ці толькі на ўласныя сродкі.

### ● НОВЫ СТАТУС БІБЛІЯТЭКІ БЕЛДЗЯРЖУНІВЕРСІТЭТА

Фундаментальная бібліятэка БДУ стала часткай міжнароднай сеткі, якая ахоплівае 141 краіну свету. Днямі ёй нададзены статус дэпазітарнай бібліятэкі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Цяпер тут будуць прадстаўляцца дакументы і публікацыі ААН. Гэта стала магчымым у выніку праекта "Стварэнне цэнтра па вывучэнню ААН", які дзейнічае пад эгідай Праграмы развіцця ААН. Такім чынам, у Беларусі з'явіўся яшчэ адзін канал атрымання ўсебаковай інфармацыі перш за ўсё па пытаннях міжнароднай бяспекі, міжнароднага права і правоў чалавека.

### ● "ЦЕНЯВЫ РЫНАК" І ГРАМАДЗЯНЕ НЯСУЦЬ СТРАТЫ

За першы месяц гэтага года супрацоўнікамі праваахоўных органаў падчас незаконных валютных аперацый канфіскавана 37 тысяч долараў ЗША, 20 тысяч нямецкіх марак, 65 тысяч расійскіх рублёў і больш за 4 мільярды беларускіх "зайчыкаў". Згодна з інфармацыяй Камітэта фінансавых расследаванняў, сума штрафаў, якія накладзены на "валютчыкаў" і іх кліентаў, таксама перавышае чатыры мільярды беларускіх рублёў. Да адміністратыўнай адказнасці за незаконны абмен валюты было прыцягнута ў студзені 283 чалавекі. Тым не менш тэндэнцыя да росту падобных злачынстваў не змяншаецца. Сітуацыя тлумачыцца адсутнасцю валюты ў афіцыйных абменных пунктах, па прычыне чаго грамадзяне вымушаны звярнуцца да дзяльцоў "ценявога рынку".



БЕЗ ТЭРМІНУ ДАЎНАСЦІ





## СУД ПРЫСЯЖНЫХ З ЛОНДАНА ПРЫБЫЎ НА БРЭСТЧЫНУ

Прадстаўнікі органаў юстыцыі Брэстчыны сустрэлі 15 лютага на пагранпераходзе "Варшаўскі мост" сваіх калег з Англіі, якія на трох аўтобусах прыбылі сюды з Варшаўскага аэрапорта. У склад брытанскай дэлегацыі ўвайшлі 12 прысяжных засядацеляў, 8 прадстаўнікоў судзейскай брыгады і столькі ж прадстаўнікоў абароны і абвінавачання. А яшчэ — больш двух дзесяткаў журналістаў вядучых заходніх краін, інфармацыйных агенцтваў і тэлекампаній.

У горад над Бугам прыбыў практычна ўвесь склад суда, які вядзе судовы працэс па справе ваеннага злачынцы, былога камендана Дамачоўскай паліцыі Антонія Саванюка, беларускае прозвішча якога Андрэй Саванюк. Прадстаўнікі брытанскай Феміды пайшлі на беспрэцэдэнтны крок, вырашыўшы прыехаць у Беларусь і на месцы пазнаёміцца з абставінамі злачынстваў 77-гадовага Андрэя Саванюка. Праграмай знаходжання і патрабаваннямі англійскага заканадаўства абмежаваны зносіны брытанскіх прысяжных і суддзяў з журналістамі. Адразу з граніцы яны паехалі ў брэсцкую гасцініцу "Інтурыст", дзе, па папярэдніх умовах, суддзі, прысяжныя і абарона будуць пражываць на асобных паверхах і асобна харчавацца, выключыўшы зносіны паміж сабой. 16 лютага дэлегацыя англійскага правасуддзя выехала ў пасёлак Дамачова Брэсцкага раёна, дзе наведала мясцовую царкву, будынак, у якім размяшчалася гарнізонная нямецкая камендатура, і месца расстрэлу мірных жыхароў у гады вайны. Усяго тут было знішчана 3,8 тысячы чалавек. Фашысты і іх прыспешнікі не пашкадавалі нават 54 дзіцяці з мясцовага дзетдома.

*На здымках: аўтобусы прыбылі на пагранпераход "Варшаўскі мост"; 72-гадовы жыхар вёскі Борысы, што побач з Дамачовам, Іван БАГЛАЙ — сведка ваенных злачынстваў; месца расстрэлу было побач з гэтым будынкам былой нямецкай камендатуры; 70-гадовы Аляксандр БАГЛАЙ помніць, як праходзілі расстрэлы. Яго расказ пацвярджае і Іван СЦЕПАНЮК, якому 75 гадоў (злева).*

*Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.*





ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# ЛЯ ВЫТОКАЎ АЙЧЫННАЙ КНІЖНАСЦІ...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

славянскі свет і эміграцыя, філасофская, рэлігійная, палітычная і грамадская думка славян, універсалізм і своеасаблівасць у славянскіх літаратурах, дыяпазон і межы славяназнаўства. За апошнія 5 гадоў аўтарытэт, павага да гуманітарнай навукі нашай краіны ў Еўропе пабольшыліся. Заўсёды існавалі вельмі цесныя і плённыя кантакты паміж беларусамі і іншымі славянскімі народамі, і яны звычайна знаходзілі сваё апірышча ў Кракаве, гэтым другім Парыжы. У Польшчы вельмі значны беларускі асяродак. Тамтэйшыя беларусы спецыяльна прыходзілі слухаць нашы даклады, прасілі, каб мы выступалі па-беларуску, хацелі пачуць навуковае прачытанне тых старонак нацыянальнай культуры, якое могуць даць толькі беларускія даследчыкі, бо яны прапусцілі гэтыя гістарычныя падзеі праз сваю свядомасць, свой лёс, як носьбіты свайго нацыянальнага этнасу, мовы, культуры.

У час працы кангрэса для нас арганізавалі некалькі экскурсій: Закапанэ, Асвенцім, Чанстахова... І я, паколькі даследую старабеларускую марыялогію, не магла абмінуць апошнюю мясціну, якая мае самае непасрэднае дачыненне да нашай гісторыі і культуры. Чанстахоўская ікона Божай Маці была келейнаю ў Ефрасінні Полацкай. Менавіта перад ёю будучая ігумення зямлі беларускай, 12-гадовая Прадслава, атрымала ў празрыстай яве ўнявешчанне Госпаду. У 1395 годзе Уладзіслаў Апольчык адносіць Чанстахоўскую Адзігітрыю на Ясную Гару. На этнічных беларускіх землях святыня пакінула сваю цудадзейную копію. Даведаўшыся пра гэта, бо экскурсавод наш гаварыў на лаціне, многія славяне і еўрапейцы, якія не так дакладна, як манахі-паўлікане разумелі класічную мову, пачуўшы расповед пра святыню з вуснаў беларуса, пачалі асабліва цікавіцца нашай краінай, бараніць яе міжнародны прэстыж.

*— Тэма вашага даклада на кангрэсе славістаў была пазначана: "Спадчына І. Ужэвіча і славянскія літаратуры". Магчыма, у гэтым быў таксама свой знак: еднасці беларускай ідэі і тых мясцін, у якія вы патрапілі. Бо, калі згадваць пра асобу І. Ужэвіча, творчасць і навуковую спадчыну якога вы так глыбока даследуеце, то ён у свой час скончыў Кракаўскі універсітэт. Цікавасць да вашага даклада, да вас як да навукоўца з боку ўдзельнікаў з'езда, якой яна была менавіта ва ўлонні кракаўскага асяродка?*

— Я трапіла ў Кракаў — і гэта было лёсам прадвызначана, — каб наведаць Чанстахоўскую святыню і апынуцца ў тым асяродку, дзе жыў, пісаў, здзейсніўся як паэт І. Ужэвіч, каб далей працягваць даследаванне гэтай асобы, постаці айчыннага пісьменства. Сапраўды, як вы згадалі, І. Ужэвіч навучаўся ў Кракаўскім універсітэце. І калі мы звернемся да прамацыйнага "Спісу студэнтаў Кракаўскага універсітэта", які ахоплівае перыяд навучання з 1608 па 1642 год, то даведаемся, што 28 кастрычніка 1637 года Іван, сын Пятра, Ужэвіч залічваецца ў штат студэнтаў знакамітага Кракаўскага універсітэта. Гэты перыяд для паэта быў надзвычай плённым. У 1641 годзе была напісана яго знакамітая паэма "Вобраз Цноты і Славы" (на шлюб сяброў паэта Аляксандра Пржылецкага з Евай Рупнёўскай). Паэма, як лічылі еўрапейскія даследчыкі і айчынныя вучоныя Інбелкульта, была нечым выключным у прасторы еўрапейскай культуры. Сама лінія Цноты і Славы з'яўлялася велічным гімнам усёй старабеларускай, сярэдневяковай еўрапейскай культурнай традыцыі дабрадзейства, дабрачыннасці, увогуле не толькі рыцарскім, але і звычайным паважным родам. Галоўныя ідэі паэмы ў тым, што слава не можа ўзнікнуць са свецкай мітусні, яна дзееецца з дабрадзейнага жыцця, подзвігаў не толькі на полі бою, не толькі подзвігаў вайсковых, але і подзвігаў духоўных, падзвіжніцкага служэння Айчыне, кніжнасці, са звычайнага чалавечага прыстойнага жыцця. Гэта цяжка даецца не толькі ў наш век, гэтак было і ў тыя часы, бо патрабуе і патрабавала асаблівай духоўнай мужнасці, штодзённага маральнага стаяння ў чысціні і веры. Гэтая тэма, надзвычай актуальная ў наш час, выклікала асаблівую цікавасць не толькі да творчасці І. Ужэвіча, але і да самой яго асобы. Прыйшло шмат людзей, якія цікавіліся таксама і прапанаваным у дакладзе метадам агульнафілалагічнай цэласнасці, у прыватнасці, і творчасці Ужэвіча як паэта-граматыста, лексікографа, тэолага.

Спадчына І. Ужэвіча вельмі разнастайная. Яна складаецца не толькі з уласна паэм, паэтычных твораў — фрашак, эпіграм, яна ўключае і граматычныя працы, лексікаграфічныя. І таму вывучэнне вытокавага перыяду славянскага пісьменстваа, дзе І. Ужэвіч знаходзіцца побач з аўтарамі іншых граматык (І. Фёдаравым, Л. Зізаніем, М. Сматрыцкім), запатрабавала ў маладой генерацыі вучоных абноўленых метадалагічных падыходаў. Методыка агульнафілалагічнай цэласнасці ў даным разуменні была энергічна падхоплена беларускімі даследчыкамі. Але, як звычайна бывае пры нявыпрацаванай навуковай "школе", пры лёгкім запазычанні яна ледзь не пераўтварылася ў ходкую выпусташаную ідэю. А ёй неабходная тая глыбокая распрацоўка, што выклікана спецыфічным матэрыялам медыявістыкі. І гэта назіралася ў вельмі многіх дакладах славістаў і айчынных, і замежных на пленарным пасяджэнні і на секцыях. Бо ў медыявістыцы што ні вазьмі — усё ўзаемапераходна: моўныя стылі амбівалентна абарочваюцца праблемамі рыторыкі, экспрэсіўны сінтаксіс рытарычных фігур — пачаткамі вершаскладання. У сваю чаргу, старажытныя граматыкі побач з лінгвістыкаю ўтрымліваюць элементы паэтыкі і філасофіі. Без методыкі агульнафілалагічнай цэласнасці, далейшай распрацоўкай якіх будзе вымушана заняцца наша даследчыцкае пакаленне, амаль немажліва раскрыць пакручастыя шляхі трансфармацыі старажытных жанраў у родавую сістэму літаратуры новага часу, увогуле зразумець такую сінкрэтычную творчасць старабеларускіх пісьменнікаў, раскрыць феномен старабеларускай культуры.

*— У асобе І. Ужэвіча мы маем паэта і філолага. Працай яго жыцця было стварэнне "Граматыкі", якая прынесла яму сусветную вядомасць. Што вы можаце сказаць пра яе ўплыў на развіццё сучаснай беларускай літаратурнай мовы?*

— Аналіз складу "Граматыкі" паказвае, што І. Ужэвіч адлюстраваў і апісаў стан сучаснай яму беларускай літаратурнай мовы, надзвычай дакладна зафіксаваўшы лексічныя, фанетычныя, словаўтваральныя і марфолага-сінтаксічныя змены, якія адбыліся ў ёй да XVII стагоддзя ў выніку адгалінавання ад агульнаўсходнеславянскага ствала.

Граматыка Івана Ужэвіча, відаць, была напісана з улікам вопыту першай універсальнай граматыкі "Мінервы" таленавітага іспанскага вучонага Ф. Санчаса, знакамітай папярэдніцы "Граматыкі Пор-Раяля" Арно і Лансло, што, на думку вучоных, нямала паўплывала на працэс тэрытарыяльнай кансалідацыі айчыны іспанца і французаў.

Значную цікавасць для сучаснага граматыста ўяўляе марфалагічны раздзел Івана Ужэвіча, у складзе якога памяншальныя формы (малы, малюхны, маленькі, малюсенькі, малюсенечкі, малюсенечанькі), агульныя імёны, якія абазначаюць ступень сваяцтва да адказнай асобы (ваяводзіч, сын ваяводы, ваевадзянка, дачка ваяводы, ваяводзіная, жонка ваяводы), імёны з фармантам -ецъ у клічным склоне (отче, кравче, мыслівче), агульныя імёны мужчынскага роду, што заканчваюцца на -ый і скланяюцца на ўзор прыметнікаў (крайчій — той, хто кроіць хлеб да каралеўскага стала, падскарбій — падскарбнік), неазначальныя займеннікі (якійсь, хтось, штось, якій-кольвекъ, жаденъ), прыналежныя прыметнікі, утвораныя ад уласных (свойскі, твойскі, наскі)...

*— І пытанне апошняе: якое значэнне мела творчая спадчына І. Ужэвіча не толькі для беларускай кніжнасці, але і ўвогуле філалагічнай культурнай прасторы еўрапейскіх краін?*

— Творы І. Ужэвіча (выключэнне толькі складае "Сіноніма славенароская") выйшлі па-за межамі нашай Айчыны. І гэта ўжо сведчыць пра тое, што на той час І. Ужэвіча ўспрымалі як вельмі змястоўную асобу, якая магла прычыніцца да ствала кожнай еўрапейскай культуры. Славутая "Граматыка" вядомага філолага (мы ведаем дзве рэдакцыі: адна напісана ў Парыжы ў 1643 годзе, а другі араскі варыянт — у 1645) была створана па замове французскага дзяржаўнага дзеяча кардынала Рышэлье, які, як сведчаць архіўныя крыніцы, запрасіў беларускага вучонага ў Французскую акадэмію, каб пазнаёміць еўрапейскую грамадскасць з удалым вопытам літаратурнага ўпарадкавання старабеларускай літаратурнай мовы. І варта падкрэсліць, што наш зямляк не забыўся пра сваю Айчыну і пра магутную старабеларускую традыцыю, якая легла ў падмурак усёй не толькі славянскай, але і еўрапейскай культуры. На вокладцы "Граматыкі" аўтар змясціў ікону Жыровіцкай Божай Маці ў суправаджэнні Благавешчанскіх Анёлаў, Васілія Вялікага і Мікалая Угодніка. Гэтая святыня спрадвеку была (асабліва ў XVII стагоддзі) для ўсёй Еўропы сімвалам Вялікага княства Літоўскага (і Беларусі ў прыватнасці).

Творчасць І. Ужэвіча пацвярджае тую выснову, што старабеларуская літаратурная мова і ў цэлым моўна-кніжная традыцыя знайшлі адбітак многімі сваімі элементамі і ў сучаснай расійскай літаратурнай мове, з яе папаўнялі сваё лексічнае багацце іншыя славянскія мовы. Вядомыя таксама запазычанні з яе ў старарумынскай, старавенгерскай мовах. Што, дарэчы, прагучала ў дакладах многіх удзельнікаў XII Міжнароднага з'езда славістаў.

БЫВАЙ, ЗІМА!

# МАСЛЕНІЦА, МАСЛЕНІЦА—



А ў нас сёння Стрэчанне, Стрэчанне: Зіма з летам стрэлася, стрэлася.

* * *

...Люты, як і належыць яму, лютуе завеямі, снегу падсыпае. І то добра, значыць, масленіца сёлета парадуе нас сваімі гульнямі, а не толькі блінамі-аладкамі. Сустрэчы з сонейкам, вясной мы чакаем, але ж на развітанне з матухнай-зімой хочацца на санках пракаціцца, няхай сабе і не запрэжаных тройкай, без званочкаў. У гэты дзень нават дарослыя не цураюцца такой забавы і разам з дзецьмі з горкі навыперадкі спускаюцца. Здавён спадарыня масленіца самым вясёлым святам лічыцца. Мо адсюль і шкадаванне:

**Мы думалі, масленкі — сем**
**нядзелек, сем нядзелек,**
**Ажно масленкі сем дзянёчкаў, сем**
**дзянёчкаў!**
**Нас масленка абманіла, абманіла:**
**На сем нядзель паста пасадзіла,пасадзіла,**
**На белу капусту, капусту,**
**На горкую рэдзьку, на рэдзьку,**
**Ай, люлі, на рэдзьку.**

Між іншым, свята гэта належыць не толькі славянскаму свету, геаграфія яго бытавання шырэйшая. Напрыклад, у краінах Заходняй Еўропы ці Іспаніі масленіца і цяпер праходзіць як агульнанародны карнавал, які па весялосці і гумару перавышае многія іншыя святы. А ў нас, хаця карнавалаў спакон веку не было, але ж забаў і гульняў масленічных хапала. Відаць, не апошнюю ролю ў гэтым адыгрывала тое, што напярэдадні чакаў доўгі перадвялікодны пост. Адсюль і рухомы тэрмін святкавання самой масленіцы. У дахрысціянскія ж часы прымяркоўвалася яна да веснавога сонцастаяння. Але ж і не выпадкова ў народзе гавораць: "Масла на стале — масленіца на двары". Бо з другой паловы лютага да пачатку сакавіка пасля ацёлу скаціны на сялянскім стале з'яўляюцца масла, сыр, смятана... Ну і, вядома ж, бліны.

Кожны дзень масленічнага тыдня быў напоўнены сваім зместам, што складаўся стагоддзямі і вельмі арганічна адлюстроўваў сялянскі побыт. У панядзелак дзяўкі і бабы, сабраўшыся разам, адпраўляліся да адной з маладух, якая апошнім мясаедам выйшла замуж. Стукаючы ў браму, песняй выклікалі яе да сябе:

**Маладая, ты,**
**Марутка,**
**Выйдзі, выйдзі**
**к нам на вулку!**
**У нас на вуліцы**
**дзевак многа,**
**Дзевак многа і**
**рыбят.**
**Возьмі сыра —**
**родзіш сына,**
**Вынісь мачку —**
**родзіш дачку,**
**Вынісь рэпку —**
**родзіш слепку,**
**Вынісь тоўкача —**
**родзіш сморкача,**
**Вынісь рэдзьку —**
**родзіш седзьку.**

Вядома ж, маладзіца выносіла сыры, абаранкі і іншыя пачастункі. Але справа на гэтым не канчалася. Прыходзілі тыя бабы і дзеўкі і на наступны дзень. Пасадзіўшы маладую спадарыньку на санкі, усе разам везлі яе ў карчму — вяселля і гаму пры гэтым шмат. А ў карчме мужу яе давядзецца раскашэліцца, гарэлачкай усіх пачаставаць.

А яшчэ ў панядзелак збіраліся бабы, каб "валачыць калодку" — невялікую палку з прывязанай да яе чырвонай папругай. Яе са смехам і жартамі



Шырокая масленіца,
Ты з чым прыйшла — з'явілася!
З вясёлымі скамарохамі.

* * *



Ой, вясёлае сёння свята,
І гасцей вельмі багата!
У церамок мы запрашаем
З'есці смачны шашлычок!

* * *



Мы масленку чакалі,
Мы масленку сустракалі,
А мароз раптам ухапіў за нос.

* * *

## ГУЛЬНІ І ЗАБАВЫ АД СПАДАРЫНІ КЛАВЫ

***Клаўдзія ЛАБЧЭЎСКАЯ — вядучы метадыст аддзела народнай творчасці Беларускага інстытута праблем культуры. У свой час скончыла Гродзенскае культасветвучылішча, Ленінградскі інстытут культуры.***

Першы запіс у працоўнай кніжцы: "Масавік Гродзенскага парку культуры і адпачынку". Потым была работа ў доме адпачынку "Нарач", Рэспубліканскім доме народнай творчасці (ён жа Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр), які ў свой час пры стварэнні Беларускага інстытута праблем культуры ўвайшоў у новую структуру.

Ва ўласна сабранай гульнятэцы Клаўдзіі Лабчэўскай 4 тысячы гульняў і забаў, бо яна лічыць, што без іх — свята не свята. І вельмі ганарыцца, што ёсць у яе вучаніцы-паслядоўніцы. Адна з іх — Марына Клуйша, арганізатар вельмі папулярнага на Смаргоншчыне свята "Хто гуляе і дурэе — той ніколі не старэе".

Спадарыня Лабчэўская ўпэўнена, што кожнага чалавека незалежна ад узросту і пасады можна "падбіць" на гульню. У гэтым пераканалася яшчэ на пачатку свайго творчага шляху.

— Мой першы вечар, на якім я выступіла ў ролі масавіка-забаўніка, быў навагодні, — успамінае яна. — Педагог Гродзенскага вучылішча Валянціна Мініцкая накіравала мяне па заяўцы ў санаторый "Беларусь", што ў Друскінінкаі. Было мне тады 16 гадоў, рэпертуар небагаты — яго хапіла толькі да 12 гадзін, а само навагодняе свята доўжылася да ранку. Прыйшлося зноў пракручваць сваю праграму, але я ўсё ж здолела растармашыць усіх. Нават самавіты генерал, адзін з адпачываючых, у фанты гуляў і як маленькі выканаў заданне прапаўзці на каленях па паркеце да ёлкі.

Я ўжо тады зразумела, што ад масавіка-забаўніка шмат што залежыць. А яшчэ — трэба абавязкова мець сваю асабістую гульнятэку. Так што, дзе б потым ні даводзілася бываць — ці то ў розных рэгіёнах Беларусі, ці то на Усесаюзных конкурсах масавікоў, дзе прадстаўляліся сюжэтна-гульнёвыя праграмы з 15 рэспублік, я глядзела і запісвала ўсё цікавае.

З гадамі прыйшла да высновы: гульні не маюць межаў, яны — з'ява касмічная, што аб'ядноўвае людзей. Калісьці танец-гульню "Ойра" я ўпершыню ўбачыла ў Латвіі, але беларусы таксама лічаць яе сваім. А потым мне давялося пабываць у Балгарыі на Міжнародным фестывалі кукераў і сурвакатэраў, прысвечаным святу маскі. Дык вось, адзін хлопец з турэцкай дэлегацыі стаў нам паказваць усё тую ж "Ойру", толькі туркі лічаць яе сваёй...

Я вельмі рада, што за апошнія гады стала больш літаратуры, прысвечаная зусім не такой ужо дробязнай тэме, як гульні і забавы ў жыцці людзей. З'явіўся і Цэнтр беларускай гульні і цацкі. Дарэчы, яго кіраўнік Алесь Лозка якраз выдаў зборнік, у які ўвайшло каля 600 гульняў.

Пакрысе гульня стала зноў вяртацца да нас (каб не заседжваліся ля тэлевізара і камп'ютэра). Гэтаму вяртанню спрыяюць педагогі ў садзіках і школах. Зноў папулярны КВЗ. Між іншым, тэлевізійнае "Поле цудаў", якое так любяць беларускія тэлеглядачы рознага ўзросту, — гэта мадэрнізаваная "гульня ў гарады", якою ў 60-я гады захаплялася ўся наша Антопальская школа.

Не, што б там ні гаварылі пра камп'ютэрныя гульні, тэхнічны прагрэс і д. п., але тых, хто запрашае нас незалежна ад узросту "дурэць", быць у руху, цікавых зносінах, адчуваць атмасферу свята, самім ствараць яго — іх нельга нічым замяніць.

А таму гуляйце, дурэйце, забаўляйцеся на здароўе.

Мы звярнуліся да Клаўдзіі Лабчэўскай з просьбай падзяліцца матэрыяламі з яе гульнятэкі. У сённяшнім нумары нашай газеты — прэм'ера рубрыкі "Гульні і забавы ад спадарыні Клавы".

**Марта КОСЦІЧ.**



*На I фестывалі "Беларусь — мая песня" Клаўдзія ЛАБЧЭЎСКАЯ атрымала ў падарунак ад самадзейных гродзенскіх артыстаў парсючка. І гадуецца цяпер парсючок Клаўдзіі у пасёлку Антопалі, што на Брэстчыне, у бацькоў Клаўдзіі Лукінічны.*



БЫВАЙ, ЗІМА!

# ГОСЦЕЙКА ДАРАГАЯ...

прывязвалі да нагі сустрэчнага халастога хлопца нібыта ў пакаранне, што ён не ажаніўся ў мясаед. Небараку заставалася толькі адкупіцца пачастункам. Але ж і дзяўчыну, якая замуж не выйшла, гэтак жа сама "каралі".

У чацвер, які дагэтуль у народзе называюць "Святым Уласам", ці "Валосам", жанчыны зранку завіхаліся ля пячы, каб падрыхтавацца да загавін на скаромнае. На стол падавалася страў багата: розныя мясныя, бліны аржаныя, аўсяныя ці ячныя. Бліноў цэлы стос, які гаспадар разразаў крыж-накрыж. Кожны браў сабе чвэрць, скручваў трубачкай і макаў у тварог з растопленым маслам. Смаката!

А самы першы блін яшчэ цёплым клалі на дахавае акенца для продкаў, бо ў гэты дзень іх душы вяртаюцца на зямлю. Пакуль гаспадыня шчыравала ля печы, гаспадар аб'язджаў маладых коней, бо гэта трэба было рабіць менавіта на Уласа.

Хлопцы ж з дзяўчатамі ладзілі гойданкі, гушкалкі на браме ці ў гумне. Імкнуліся яны вышэй узлятаць на дошчачцы, каб на той год лён доўгі і моцны рос.

Аб усіх гульнях і забавах, што ладзіліся на масленічным тыдні, і не расказаць адразу — столькі іх было!

У апошні дзень свята спраўлялі провады масленкі — масленіцы: саламянае пудзіла вывозілі на поле ці на самы высокі пагорак і спальвалі, аддаючы цяпло сонцу, каб яно хутчэй абуджала прыроду.

Увечары — "запускі" на малако. На стол ставіліся толькі малочныя стравы. Людзі развіталіся з вясёлым святам, жадалі адзін аднаму шчасця і здароўя, сямейнага дабрабыту, настройвалі сябе на новы працяглы пост да самага Вялікадня.

А яшчэ гэты вечар быў вечарам усеагульнага даравання. Дзеці прасілі: "Прасці, бацька родны, калі чым сагрэшыў перад табою, справай ці языком". Сам жа бацька пасля таго выходзіў на сярэдзіну хаты і, пакланіўшыся да зямлі ўсяму сямейству, таксама прасіў даравання за нядобрыя словы ці ўчынкі.

Шкада, што ад усяго масленічнага тыдня засталіся нам толькі нядзельнае гулянне ў парках ці на плошчах (дзе мы часцей назіральнікі, а не ўдзельнікі) ды застолле з блінамі...

*Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ і Віктара СТАВЕРА.*



Зверху — пар, знізу — пар,
Развясёлы самавар.

* * *

І пяе ён, і раве,
На бліны усіх заве!

* * *

**Уцякай, мароз-дзядуля!**
**Чуеш ты, стары, ці не!**
**На пагорках — булі-гулі! —**
**Песні чуюцца вясне.**

**Звоніць, скача, як дзіцятка,**
**Гэты жэўжык-ручаёк.**
**На яго, бы тая матка,**
**Сонца кідае свой зрок.**

**А ён, гучны і смяшлівы,**
**Так і ходзіць, аж дрыжыць,**
**І другі сябрук шчаслівы**
**Насустрэч яму бяжыць.**

**Ты паслухай, дзед сярдзіты,**
**Што там чуецца ўгары!**
**Што за спеў за самавіты**
**У небе правяць песняры!**

**А зіма аж пачарнела —**
**Годзе ёй тут кросны ткаць!..**
**Гэй, маленства, жыва, смела**
**Выйдзем весну прывітаць!**

**А як слаўна каля хаткі**
**Нам пабегаць, пагуляць!**
**Ну, зіма, збірай манаткі,**
**Годзе нас табе ўшчуваць!**

**Маладая вясна,**
**Залатая пара!**
**Будзь красна і ясна,**
**Не шкадуй нам дабра!**

**Вокам маткі зірні,**
**Бледнасць з твару згані!**
**Дай уздужаць малым**
**Пад павевам тваім.**
**Мы вяночак спляцём,**
**Табе песню спяём.**

*(Якуб Колас — "Песня аб вясне").*

**Ужо на зямлю ляглі праталіны,**
**Снягоў спаўзае зімавая бель,**
**Узгоркі свецяць, як апалены,**
**Вада ў лагчынах жаліцца,**
**як чмель.**

**Дзе-ндзе глянула нясмелая**
**Пралеска вочкамі на**
**божы двор, —**
**Людскіх слёз кветка сіня-белая**
**Шукае сонца днём, а ночкай —**
**зор.**

**Крылатыя стварэнні з выраю**
**Па Млечнаму пуці плывуць,**
**як шнур,**
**І, творачы малітву шчырую,**
**Сваіх шукаюць кінутых пячур.**

**Спагаднае свято нябеснае**
**На колькі вёрст звялічыла свой**
**шлях,**
**Па нівах промені пачэсныя,**
**Як лён той, сцелюцца ў жывых**
**агнях.**

**І ў хатку заглядаюць промені, —**
**Дарма, што нізкія аконцы ў ёй, —**
**Гуляюць радасна па коміне**
**Бліскучай і вясёлаю сям'ёй.**

**Па ложку, па пасцелі ласяцца,**
**Цалуючы яе і мой гарачы твар,**
**Як тыя ветрыкі па пасецы,**
**Гуляючы ў пякучы летні сквар.**

**Устань, галубачка бяскрылая,**
**Заспаны зоры-вочанькі пратры,**
**Збяромся з думкамі і з сілаю**
**Жыцця парадак валачы стары!**

**Праталіна лягла на гонейках,**
**Збудзілася пралесачка ад сна...**
**Устань, устань, маё ты сонейка!**
**Залатаструнна іграе ўжо вясна.**

*(Янка Купала — "Праталіны" з паэмы "Яна і Я").*

*** Сакавік часамі снегам сее, а часамі сонцам грэе.**

*** Сакавік зялёны — ураджай благі.**

*** Як у сакавіку туман, дык у жніво дождж — пан!**

*** У сакавіку зіма не гніе — у красавіку трава не расце.**

*** Няма ў сакавіку вады — няма ў красавіку травы.**

*** Сакавік дрэвам сок пускае,**

*** Сакавік мокры — хлеб горкі.**

*** Хто сее гарох у марцы, той гатуе ў гарцы, а хто ў маі, той ў яі.**

*** Жыта ў сакавіку глядзіць у неба — не пакаштуеш зімой хлеба.**

*** Сакавік дажджом імжыцца — хлеба будзе ў рукавіцу.**

*(З народных прыкмет).*

# ПАДВОРАК НА МАСЛЕНІЦУ

МАСЛЕНІЧНЫЯ гульні і забавы ў многіх раёнах Беларусі накладваліся на гукальныя, карагодныя, маладзецкія, дзе хлопцы маглі паказаць перад дзяўчатамі сваю сілу, спрыт і кемнасць. Каталіся на санках, ездзілі на конях, гушкаліся на арэлях.

Дзяўчаты завязвалі хусткі з доўгімі махрамі, каб вырас доўгі лён. А хлопцам вешалі калодкі за тое, што яны нежанатыя. Спявалі ў карагодах прыпеўкі:

**Гэй, вы, хлопцы, кругом**
**Вы ня спіце моцным сном,**
**А хадзіце раз у год**
**Паскакаць у карагод.**

**Ой, музыка, рэж за двох,**
**Не шкадуй ты маіх ног,**
**Мае ногі не баляць,**
**Яны хочуць танцаваць...**

**Ты мой дзед, ты мой дзед,**
**А я твая бабка,**
**Пачастуй мяне аладкай,**
**Каб была я гладкай!**

**Ой, ты, бабка мая,**
**Ты нядужанькая,**
**Напаю цябе гарбатай,**
**Будзеш дужанькая!**

**Музыканцік малады,**
**Ў цябе чубчык залаты.**
**Ў цябе чубчык кучаю,**
**Я ж цябе замучаю...**

І сёння гучаць гэтыя словы прыпевак у карагодах-гульнях на Брэстчыне, Магілёўшчыне, у Мінскай вобласці.

Гульневыя падворкі на Капыльшчыне, Лепельшчыне прыгожыя. Тут ёсць "Блінная", дзе можна пачаставацца смачнымі аладкамі і гарачай гарбатай. Усоды запрашэнні: "У нашага бліна дармовая цана! Гарбата чабарова — будзеш здарова!". Праводзяцца аўкцыёны: "Хто болей назаве, з чым можна з'есці бліны?" Напрыклад: з мёдам, маслам, і хто апошні пасля ліку "3" скажа сваю назву, атрымае прыз на шыю — нізку абаранкаў. Гульні ладзяць розныя, каб было весела і малому і старому.

### НЕ ЎСЁ КАТКУ МАСЛЕНІЦА (дзецям)

Колькасць гуляючых ад 10 да 20 чалавек. Гуляючым адзначаюць лінію — "вуліцу", а на адлегласці 6—8 метраў ад яе круг "дом". Па дамоўленасці выбіраюць "кошку". Кошка становіцца ў "дом", і паміж ёю і "кацянямкамі", якія падышлі да яе на два крокі, адбываецца дыялог, у якім "кошка" задае пытанні, а "кацяняткі" павінны адказваць на іх. Напрыклад:

**— Кацяняткі-дзіцяняткі, дзе вы былі?**
**— На свяце масленіца!**
**— А што вы там рабілі!**
**— Аладкамі, смятанкай частаваліся.**
**— А дзе тыя аладкі са смятанай!**
**— Сабачка Цімка адабраў.**
**— А дзе той Цімка!**
**— Збег.**
**— Куды!**
**— Туды, дзе блінцы за так даюць...**

(Пытанні выдумляюцца гуляючымі).

Адказваючы, "кацяняты" могуць запнуцца, "кошка" крычыць: "Эх, вы, блінцоў пераелі!" — і ловіць іх. "Кацяняты" ўцякаюць на "вуліцу" (становяцца на лінію) і бяруцца за рукі. Злоўлены "кошкай" ці той, хто стаў на лінію апошнім, выбывае з гульні. "Кошка" ўводзіць яго ў "дом". Ідзе змена "кошкі". Гульня пачынаецца зноў і заканчваецца, калі "кошка" ўсіх адвядзе ў "дом".

### "ПАБАЛКА" (моладзі)

У гульні ўдзельнічаюць усе жадаючыя. Трэба выбраць заснежаную пляцоўку. Робяць са снегу вялікі камяк. Становяцца вакол яго, узяўшыся за рукі. Па сігналу вядучага кожны з гуляючых, упіраючыся нагамі, стараецца штурхнуць таго, хто стаіць побач, на снежны камяк. Як толькі хто-небудзь "пабеліцца" (г. зн. на адзенні застанецца след ад снегу), ён выбывае з гульні (ці аддае свой фант). Гульня працягваецца. Калі застанецца двое, хто каго зацягне на снежны камяк — той пераможца. Фанты выкупляюцца праз пацешкі.

### "БЛІН" (гульня з гледачамі)

Гульня — сюрпрыз. У вядучага вялікі жоўценькі папяровы блін з літарамі, у якім схаваны падарункі на кожную літарку. Напрыклад: літара "Б" — буквар, байка, бурак. "Л" — літр малака, "І" — ірыска, ідэал (партрэт артыста), "Н" — навалочка, намітка, напарстак. Той, хто здагадаецца адразу, атрымлівае прыз.

### ГРОДЗЕНСКІ СЛУП — "ПАДКАВЫРКА" (мужчынам)

На адлегласці пяці метраў адзін ад аднаго ў зямлю ўкопваюцца два слупы 8—10 метраў вышынёй. Праз вертыкальныя пропазі на вяршынях абодвух слупоў прапускаецца вяроўка. Ля падножжа аднаго слупа (меншага) вяроўка мацуецца цвікамі. На вяршыню большага слупа прымацоўваецца прыз. Вядучы гульні трымае канец вяроўкі ля меншага слупа, крыху апускае прыз. Удзельнік гульні імкнецца залезці на вялікі слуп, каб атрымаць прыз. Але той падымаецца вышэй і вышэй. І атрымлівае яго самы спрытны і дужы. Гульня стварае камічныя сітуацыі і збірае многа гледачоў.

### "У КАРАГОДЗЕ МЫ БЫЛІ" (дарослым)

Хлопцы і дзяўчаты бяруцца за рукі і становяцца ў круг. У сярэдзіне яго адна пара, на шыі абодвух нізка абаранкаў. Удзельнікі карагода рухаюцца вакол іх, спяваючы такія словы, дзе кожны радок паўтараецца 2 разы:

**— У карагодзе мы былі,**
**Ай, люлі, мы былі.**
**— Каго вы там відзелі!**
**Ай, люлі, відзелі!**
**— Мы відзелі парачку,**
**Ай, люлі, парачку.**
**— Ванечку і Валечку!**
**(ці) Волечку і Вовачку!**
**— Ты, парачка, патанцуй,**
**Ай, люлі, патанцуй.**

(Пара, патанцаваўшы, цалуецца).

Іх месца займае другая. Гульня-карагод працягваецца, пакуль выклікае цікавасць у моладзі.

Гульневы падворак масленіцы на свяце павінен быць самы вясёлы. Таму гульні падбіраюцца на ўсе ўзроставыя катэгорыі насельніцтва. Бо —

**Згінулі сцюжы, маразы,**
**мяцеліцы,**
**Болей не мерзне душа ні**
**адна,**
**Сонейкам цёплым,**
**зеленню вабнаю**
**Абдаравала зямельку**
**вясна.**
**Грай жа, жалеечка! Грай,**
**грай, вясёлая!**
**Выйграй з вясною**
**і долечку мне.**

Матэрыялы падрыхтавала **Марта КОСЦІЧ.**

ПОСТАЦІ СЛАВУТЫХ ПРОДКАЎ

# ТАМАШ МАКОЎСКІ — ПЕРШЫ КАРТОГРАФ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

ПРЫВАБЛІВАЎ не толькі тэкст — змястоўны і разам з тым даходлівы, а і высокае мастацкае афармленне Макоўскім. Як відаць з прадмовы да яе другой часткі, Дарагастайскі "сам рабіў накіды розных відаў муштукоў, а пасля запрасіў рамесніка для выканання малюнкаў..."

Інакш кажучы, аўтар сам выканаў тую падрыхтоўчую работу, якую ў данай справе непрафесіяналу цяжка выканаць. А, шукаючы "рамесніка", выбар спыніў на Макоўскім. Відаць, не ў апошнюю чаргу таму, што быў знаёмы з Мікалаем Крыштофам і нямала чуў ад таго добрых слоў аб яго друкары і гравёры. Па просьбе Дарагастайскага Сіротка і накіраваў Макоўскага недзе ў канцы XVI стагоддзя ў Ашмяну Мураваную, каб Тамаш змог працаваць пад кіраўніцтвам Дарагастайскага.

Абодва хутка знайшлі паразуменне. Гаспадара Ашмяны Мураванай прывабілі ў Макоўскім тактоўнасць, уменне выслухаць чужую думку, прыслухацца да яе і, зразумела, стварыць дасканалыя гравюры. А што "рамеснік" задавальняў аўтара, відаць з ліста Дарагастайскага, адпраўленага Радзівілу 15 ліпеня 1602 года: "Макоўскім я задаволены. Яго абдрукі (так Дарагастайскі называў гравюры, медзярыты. — **А. М.**) мне падабаюцца".

Тут жа было выказана незадавальненне якасцю друку "Гіпікі" Кракоўскага, якая выйшла ў 1603 годзе. "Не кракаўскім майстрам друкаваць гравюры" — такі прысуд вынес Дарагастайскі. Катэгарычнасць меркавання можна растлумачыць не толькі тым, што ў асобе Макоўскага Дарагастайскі знайшоў, як кажуць, свайго мастака. Наўрад ці кіраваўся ён аднымі эмоцыямі. Усё ж, шмат вандруючы па свеце, і, як чалавек адукаваны, Дарагастайскі цікавіўся рознымі кнігамі. Не мог не ведаць і таго, што кракаўскія выданні даўно карыстаюцца папулярнасцю. Значыць, такая ацэнка — лішняе пацвярджэнне таму, што Макоўскі, ілюструючы "Гіпіку", дасягнуў вялікага майстэрства.

Праўда, В. Шматаў наконт гэтага робіць такое ўдакладненне: "Даволі высокі ўзровень", хоць і адзначае амаль скульптурнасць мастака ў падачы выяў коней і тое, што штрыхоўка падкрэслівае іх аб'ём.

Што Макоўскі падышоў да афармлення "Гіпікі" па-сапраўднаму творча, відаць і па тым, што ён не проста рабіў ілюстрацыі да тэксту, а ствараў у нечым сюжэтна завершаныя кампазіцыі. Коні, як правіла, адлюстраваны ці на ўлонні прыроды, ці на фоне гарадоў. Асабліва прываблівацюць ілюстрацыі, дзе на заднім плане паказаны замкі: тым самым нібы нагадвалася, якімі архітэктурнымі збудаваннямі можна было ганарыцца ў княстве.

Усяго да гэтай кнігі Макоўскі выканаў 50 гравюр, а такой колькасцю ілюстрацый, як вядома, нават сёння можа пахваліцца далёка не кожнае выданне.

НАСТУПНЫ крок Макоўскага ў авалоданні сакрэтамі гравёрнага майстэрства і ўдасканаленні яго — аздабленне "Панегірыка братоў Скарульскіх — Яна, Захара і Мікалая", адрасаванага Мікалаю Крыштофу. Гэты "Панегірык..." быў надрукаваны ў Нясвіжы ў выглядзе плаката, большую частку якога займаюць гравюры, а ўхвальны тэкст у гонар Сіроткі размешчаны ўнізе.

Кампазіцыя складаецца больш чым з 20 малюнкаў, сярод іх і архітэктурная рамка з рознымі фігурамі. Па баках знаходзяцца 8 авальных відавых гравюр, выкарыстаны розныя мастацкія ўпрыгажэнні.

Намаляваў Макоўскі арку з гербам Радзівілаў. Герб па баках абрамлены дзвюма фігурамі. На адной з іх адлюстраваны барадаты мужчына, які трымае ў руках карону, тэкст на якой пададзены на лацыні. На другой адлюстраваны яшчэ адзін чалавек. І таксама з каронай. Але калі першы намаляваны ў апратцы народаў Усходу XIV—XVI стагоддзяў, дык гэты — у рымскім адзенні.

Падобны мастацкі прыём Макоўскі, мабыць, выкарыстаў для таго, каб засведчыць, што Мікалай Крыштоф з людзей, якія шмат падарожнічаюць, і пабываў ён у многіх краінах. А на гэта Макоўскага падштурхнула, канешне ж, праца над афармленнем "Пэрэгрынацыі...". Хоць магчымае і іншае тлумачэнне — Макоўскі падкрэсліў, наколькі князь нясвіжскі добра вядомы за межамі сваёй дзяржавы, пра яго чулі на тым жа Блізкім Усходзе, у Італіі.

Па баках аркі знаходзяцца чатыры медальёны, на якіх прыводзіцца тэкст указа 1604 года, Жыгімонта III, паводле якога Сіротку быў прысвоены тытул віленскага ваяводы. Франтон аркі ўпрыгожаны панарамай Вільні. На яе фоне — калона з палаючым факелам. Адлюстраванне Вільні выканана вельмі дасканала, яно быццам "сфатаграфавана". Значыць, намалявана з натуры.

Знайшлося на левым медальёне месца на фоне езуіцкага і бернардзінскага храмаў для адлюстравання лаўровага дрэва.

Свае творы Макоўскі падпісваў па-рознаму: Маковіус, Макоўскі, карыстаўся крыптонімам "Т. М." Захаваўся і такі подпіс: "Макаў выразаў у Нясвіжы". На кнізе ж Іераніма Більдзікевіча "Натхнёны абаронца айчыны Казімір...", якая з'явілася ў 1610 годзе ў друкарні езуіцкай акадэміі, можна прачытаць: "Служэбнік Мік. Крыштоф. Радзівіла Тамаш Макоўскі з Нясвіжа".

Тытул гэтай кнігі пададзены ў раскошнай, гравіраванай на медзі раме. Уверсе знаходзіцца мініяцюрны партрэт Казіміра. Паміж дзвюма калонамі — дзве вялікія жаночыя постаці.

Ёсць падставы аднесці выкананне гэтага медзярыта да лепшай работы Макоўскага. Прынамсі, такой думкі прытрымліваецца В. Шматаў, ды і А. Анушкін дае не менш высокую ацэнку: "Уся гэтая даволі масіўная арка і яе калоны, упрыгожаныя рознымі эмблемамі, выкананы з вялікім густам. У падобным стылі ў віленскіх выданнях нічога падобнага да гэтага часу не з'яўлялася".

Макоўскі выконваў таксама і асобныя гравюры з выявамі гарадоў: Нясвіжа, які стаў для яго родным, Клецка, што знаходзіцца, як вядома, непадалёку, а таксама Вільні, Трокаў.

Да адлюстравання гравюры Нясвіжа ён, па некаторых звестках, звярнуўся яшчэ да таго, як пачаў афармляць "Пэрэгрынацыю..." Называецца пры гэтым і прыкладная дата: каля 1600 года. Але, відаць, гэта адбылося крыху пазней. Усё ж менавіта выкананне такога даручэння Сіроткі паўплывала на далейшы лёс каморніка. Пакуль яшчэ каморніка...

УВОГУЛЕ ж, патрабуюцца яшчэ намаганні многіх даследчыкаў, каб адшукаць многае з таго, што было выканана таленавітым майстрам і, магчыма, не згубілася, а толькі чакае сваёй пары. І трэба спадзявацца на лепшае, бо надзея і на самай справе памірае апошняй.

Так, яшчэ гадоў дваццаць назад ніхто і падумаць не мог, што Макоўскі зрабіў план Масквы, які быў выгравіраваны ў нясвіжскай майстэрні ў 1611 годзе. Канешне, гэта не проста план, на якім пазначаны тыя ці іншыя месцы горада. Ён складаецца з асобных, кампазіцыйна ўдала стыкаваных гравюр, якія ствараюць панараму Масквы, а таксама даюць уяўленне аб яе наваколлі. Прынамсі, паказаны знакаміты Кітай-горад. На гравюры "Цар, альбо Крым-горад" выразна бачны Крэмль, яго ўнутраны двор. На іншых — Белы горад, найбольш вядомыя храмы, вежы, званіцы. А поруч — лясы і палі...

Імкнуўся Макоўскі і да адлюстравання блізкіх яму падзей. Захавалася серыя гравюр "Аблога Смаленска". Паказаны той момант, калі насельніцтва горада і маскоўскія войскі пад кіраўніцтвам ваяводы М. Шэіна на працягу дваццаці месяцаў трымаліся мужна, ператварыўшы Смаленск у сапраўдную крэпасць. Гэта адзін з эпізодаў, што меў месца ў 1609—1611 гадах. Тым самым можна гаварыць, што Макоўскі стаяў і ля вытокаў гістарычнай тэмы.

Спрабаваў ён свае сілы і ў галіне выяўленчых антымісаў.

Антыміс, як вядома, належыць да прадметаў літургічнага ўжытку і ўяўляе сабой чатырохвугольную льняную альбо шаўковую хустку з выявамі "Палажэнне Хрыста ў труну". Прызначалася яна для пакрыцця прастола ў царкоўным алтары. Малюнак мог быць вышыты, намаляваны, вытканы ці надрукаваны.

Макоўскі, зразумела, карыстаўся апошнім спосабам і рабіў гэта ў нясвіжскай друкарні. Думку аб тым, што Макоўскі паспрабаваў свае сілы ў галіне антымісу, выказаў В. Шматаў. Калі гэта сапраўды так, можна сцвярджаць, што жанр антымісу на Беларусі больш багаты, чым меркавалася дагэтуль. Сцвярджалася, што вядомыя толькі тры антымісы, выкананыя ў 1694, 1708 і 1723 гадах Васілём Вашчанкам у Магілёўскай друкарні. Яны ўяўляюць сабой адбіткі з гравёрнай меднай дошкі на палатне.

Макаў выразаў у Нясвіжы... З поспехам працаваў у Брунсбергу, Вільні, іншых гарадах. Але што ні рабіў ён — гэта становілася яго пасільным і разам з тым значным укладам у развіццё графічнага мастацтва роднай дзяржавы Тамаша — Вялікага княства Літоўскага, укладам у беларускае выяўленчае мастацтва, картаграфію, друкарскую справу.

Заканчэнне.
Пачатак у №№ 6, 7.

СА СТАРОГА КУФРА

## КАПЫЛЬСКА-КЛЕЦКІЯ СТРОІ



Капыльска-клецкія строі — традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення Цэнтральнай Беларусі. Бытавалі ў XIX — пачатку XX стагоддзяў пераважна ў Капыльскім, Клецкім, Уздзенскім, Нясвіжскім раёнах. Вызначаліся багаццем кампазіцыйных вырашэнняў, класічнасцю арнаменту вышывак і натыкання. Аснову летняга жаночага гарнітура складалі кашуля, спадніца (андарак), фартух, гарсэт. Кашулю шылі з кужэльнага палатна, кроілі з прамымі плечавымі ўстаўкамі з падточкай грубага палатна (радзей з гесткай), з адкладным шырокім каўнярoм, з глыбокім разрэзам пазухі. Чырвоны або чырвона-чорны геаметрычны (радзей раслінны і з выявамі птушак, фігур людзей) арнамент размяшчаўся на рукавах (гарызантальнымі і вертыкальнымі палосамі ў шахматным парадку) і на каўняры. Андарак шылі з 4 (кроеных па аснове) або 2 (кроеных па ўтку) полак паўсуконніка, вытканага ў 4 ніты ўзорам папярочных разнаколерных паскаў або клетак на белым, чорным, зялёным, блакітным, бурачковым фоне. Па ніжнім краі праходзіў шырокі маляўнічы шляк з пярэстымі паскамі або з геаметрычным арнаментам. Крой і мастацкае афармленне льняной спадніцы і андарака падобныя. Андарак і спадніцу прасавалі ў буйныя і частыя складкі, што стварала пэўныя танальныя пералівы і падкрэслівала прыгажосць каларыстычнай гамы. Фартух кроілі з 1—2 полак белага палатна, цёмна-сіняй, малінавай шарсцянкі паркалю, да пояса ззаду часта прышывалі дэкаратыўныя клінкі-лапаткі. Аздаблялі вышыўкай, узорыстым ткацтвам, вязаннем, фалдаваннем, складкамі. Гарсэт шылі з сініх, зялёных, блакітных, малінавых крамных тканін (шарсцянка, сацін, шоўк), кароткім (вышэй лініі таліі, часцей без баскі) з глыбокім выразам на грудзях. Спераду аздаблялі нашыўкамі разнаколерных тасёмак, стужак, гузікаў. Галаўныя ўборы жанчын — шаўковыя ці атласныя каптуры са стракатымі нашыўкамі спераду тасьмы, галуна, разнаколерных стужак; наміткі, хусткі. Нагруднымі і шыйнымі ўпрыгажэннямі былі пацеркі, тасёмкі, абразкі.

Мужчынскі гарнітур складалі кашуля, аздобленая вышыўкай чырвонага геаметрычнага арнаменту на адкладным каўняры, плечавых устаўках, падоле (насілі навыпуск, падпяразвалі шырокім узорыстым поясам з кутасом) і нагавіцы. Паверх кашулі апраналі камізэльку. Галаўныя ўборы — саламяныя капелюшы, картузы, кучомкі, аблавухі.

Падрыхтаваў да друку
**Дзяніс РАМАНЮК.**

БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

## ГЭТА СВЯТА

1 ЛЮТАГА споўнілася 80 гадоў Віленскай беларускай гімназіі. У 1919 годзе ініцыятарам і стваральнікам яе быў Іван Луцкевіч. На працягу дваццаці пяці гадоў гімназія рыхтавала кадры нацыянальнасвядомай інтэлігенцыі. А восенню будзе пяць гадоў Віленскай беларускай школе імя Ф. Скарыны. Пяць гадоў — юбілей невялікі, але колькі зроблена! І кожны год, як самае вялікае свята, адзначаецца дзень гімназіі. Рыхтуюцца розныя выставы, канцэрты, а самае галоўнае — сустрэчы з былымі выпускнікамі, каб ведаць і помніць багатую беларускую гісторыю, каб на надзейным грунце будаваць будучыню.

29 студзеня святкавалі ў школе. Было шмат ганаровых гасцей: з Мінска — Г. Пяцігор (ён уручыў Ганаровыя граматы Міністэрства адукацыі Беларусі групе настаўнікаў школы, перадаў кнігі для кабінета беларускай мовы і літаратуры), прадстаўнікі Міністэрства адукацыі Літвы, бы-




*Віншавальная песня трэцякласнікаў.*



МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ.

# БЕЛАРУСЬ — ДАНІЯ

**Прызнацца**, калі мы накіроўваліся ў Данію, дакладней, у адну з яе частак — Ютландыю, і перасякалі на аўтобусе Польшчу, Германію, жартавалі: у адным беларусы і датчане безумоўна падобныя — адзін пра аднаго ведаем аднолькава мала. Так склалася, што ўсе ў нашай групе ехалі ў гэтую краіну ўпершыню. Ды і сапраўды, у чым, на першы погляд, могуць супадаць інтарэсы краіны, якая знаходзіцца на паўночна-заходнім канцы Еўропы, далёка ад многіх вострых падзей, што адбываюцца на нашым кантыненце, з інтарэсамі Беларусі, якая ўвесь час на скрыжаванні палітычных падзей, што выклікаюць крызісныя сітуацыі?

І усё ж такая цікавасць узнікла. У нашым выпадку — спачатку ў некалькіх асобных людзей. На хвалі цікавасці да працэсаў перабудовы ў ходзе праграмы "Марш міру" ў нашу краіну трапіў датчанін Бёрг Самер. І хаця ў складзе той групы былі прадстаўнікі некалькіх краін Еўропы, менавіта датчане пасябравалі з самадзейным фольксансамблем з Рудзенска "Крынічанька". Доктар Бёрг Самер быў пакораны шчырасцю беларусаў і загарэўся ідэяй перадаць сваё захапленне суайчыннікам, таму, развітваючыся, запрасіў новых знаёмых у Данію. А дапамог вясковым артыстам здзейсніць паездку беларус Валерый Гедройц.

Вось тады ў Даніі і адбылося знаёмства двух энергічных, добразычлівых, дапытлівых людзей — Бёрга Самера і Валерыя Гедройца. Спадабаліся адзін аднаму. Пры развітанні акрэслілі далейшыя планы. І ў хуткім часе адбылася сустрэча ў Беларусі. На гэты раз госці з Даніі жылі ў беларускіх сем'ях. Доктар Самер з жонкай гасцявалі ў Гедройцаў.

Тыя, хто трапіў у Мінск упершыню, былі ўражаны еўрапейскім выглядам вялікага прамысловага горада, сучасным мінскім метро. Але асабліва кранулі датчан сустрэчы з вяскоўцамі. Бо не па традыцыйных забаўляльных месцах сталіцы павёз гасцей Валерый Гедройц, а ў вёскі Міншчыны. Ён, вялікі аматар і знаўца беларускіх традыцый, фальклору, лічыць, што толькі тут, у звыклай традыцыйнай абстаноўцы, можна па-сапраўднаму зразумець беларусаў. Разам з тым госці пабывалі на Беларускім аўтамабільным заводзе, што ў Жодзіне, мемарыяльным комплексе Хатынь, музеі народнага побыту.

**Вось такая** перадгісторыя нашага візіту ў Данію, які меў на мэце пашырэнне знаёмства, абмеркаванне магчымасці стварэння двухбаковага таварыства дружбы. А групу нашу склалі настаўнікі, журналісты, прадпрымальнікі, а таксама фальклорны ансамбль "Купалінка", прадстаўнікі Маладзечанскай фабрыкі мастацкіх вырабаў.

На працягу тыдня кожны дзень быў насычаны сустрэчамі, гутаркамі, канцэртамі. Атрымалася так: знаёмства з побытам жыхароў Ютландыі, дацкай сістэмай сацыяльна абароненага грамадства перамяжалася са знаёмствам з беларускай культурай. Канцэрты і выставы праходзілі іншы раз спантанна ў самы розны час, нават у не вельмі прыстасаваных памяшканнях.

Вестка аб гасцях з Беларусі распаўсюджвалася з надзвычайнай хуткасцю. Выказалі сваю зацікаўленасць мясцовае тэлебачанне, друк. Акрамя паведамленняў аб нашых сустрэчах у інфармацыйных выпусках, "Купалінку" запрасілі для здымак непасрэдна ў тэлестудыю. Пасля часта даводзілася чуць: а мы пра вас ужо ведаем, бачылі па тэлебачанні. Так з намі пазнаёміліся не толькі ў Рынгкёбінгу, Халстэбра, але і ва ўсім рэгіёне. Засталіся ў Ютландыі і касеты з запісамі "Купалінкі". Здаралася, нас сустракалі гукамі іх песень. А мясцовыя газеты пісалі: "Гэта было сапраўднае свята беларускай музыкі, песні і танца, якое яскрава засведчыла, што, хоць у нас розныя грамадствы, але людзі ў многім падобныя".

Новыя знаёмыя — палітыкі, фермеры з цікавасцю адгукнуліся на запрашэнне наведаць Беларусь. Досыць дакладна акрэсліўся намер стварыць двухбаковыя таварыствы дружбы.

Калі ад'язджалі, гаспадары, як самі прызналіся, у парадку выключэння, зрабілі развітальны прыём і не хавалі добрых пачуццяў да беларусаў.

**Прайшоў усяго** тыдзень у Даніі, а як многа змянілася з таго моманту, калі мы жартавалі наконт нашага адзінага падабенства. Знаёмства з Даніяй, дзякуючы нашаму нястомнаму "гіду" Карлу Вілбэку, праходзіла вельмі насычана і пакінула моцнае ўражанне. Датчане з жартам гавораць пра сябе. Пра тое, як "лянівыя", бо ніколі не робяць нічога лішняга, яны змаглі стварыць сацыяльна абароненую супольнасць. Пра тое, як "не вельмі разумныя", яны бяруцца вырабляць маленькія рэчы, але робяць гэта лепш, чым хто-небудзь іншы ў свеце. А ў выніку зусім сур'ёзна ў Даніі змаглі рэалізаваць "залатую" мару многіх — стварылі грамадства, дзе ўсе клапоцяцца пра кожнага, няма бедных, бясплатнае навучанне ў школе, медыцынскае абслугоўванне. Тут рэальны сэнс маюць словы "народная школа", "народная пенсія", а галоўнае звяно ў структуры дзяржавы — камуна (раён).

Потым, вяртаючыся з Даніі, спыніліся ў Германіі ў рабочых самарыцян, якія маюць даўнія сяброўскія сувязі з Беларускім таварыствам дружбы. Падзяліліся сваімі ўражаннямі, пацікавіліся, што думаюць немцы аб дацкім дэмакратычным парадку. І пачулі прызнанне, што ў Даніі больш паслядоўна развіваліся дэмакратычныя традыцыі, там змаглі дабіцца, што ўсе клапоцяцца пра кожнага. У Германіі, на жаль, іншая сітуацыя: "У нас няма такой аднадушнасці," — зазначылі нашы субяседнікі.

Так, датчане да ўсяго дайшлі сваім розумам, мала паддаваліся чужому ўплыву. Таму ні на кога не падобныя, ідуць сваім шляхам. Але ад праблем свету не хаваюцца. Яны перамаглі беднасць і хочуць дапамагчы сваім прыкладам іншым. У іх няма сацыяльных выбухаў, нацыянальных і рэлігійных канфліктаў, але яны са спачуваннем ставяцца да ахвяр такіх канфліктаў у іншых краінах. У апошні час тут далі прытулак бежанцам з Босніі, тут таксама знайшлі разуменне і падтрымку курды, тамілы...

**Што яшчэ** здзівіла ў Даніі? А тое, што ў многіх дамах вокны не завешаны фіранкамі. Адкуль такая звычка, дапытваліся мы. І чулі ў адказ: а што тут дзіўнага — нам няма чаго хаваць, ды і самім цікава, які свет за вокнамі майго дома.

* * *

Як далей будуць развівацца падзеі? Ужо тое, што іх каардынатарам стала Беларускае таварыства дружбы, дае ўпэўненасць у большай паслядоўнасці і выніковасці. Тут не любяць фарсіраваць падзеі, пазбягаюць фармалізму. "Стварэнне двухбаковых таварыстваў павінна адбывацца натуральна, на глебе ўзаемных імкненняў і пачуццяў", — лічыць старшыня Беларускага таварыства дружбы Арсен Ваніцкі. А датчане чарговую сустрэчу надоўга адкладваць не сталі: ужо ў красавіку яны наведаюць таварыства дружбы з поўнымі прапановамі. Дарэчы, аказалася, што акрамя грамадскіх стасункаў, умацоўваюцца і іншыя: у нашай краіне ўжо дзейнічае шэсць сумесных прадпрыемстваў.

**Наталля ЦІМАШОК.**

# ЯК ПАМЯЦЬ



*Усе разам: вучні, госці, настаўнікі.*

лыя вучні гімназіі і выпускнікі нашай школы.

У гэты дзень адбылося ўрачыстае адкрыццё шыльды, зробленай мінскім скульптарам У. Летуном. Багатую і цікавую канцэртную праграму падрыхтавалі вучні школы з музычным кіраўніком Валянцінай Кавальчук. Чароўная вядучая — маладая настаўніца беларускай мовы Эдзіта Шукевіч. Абедзве апранутыя ў прыгожыя нацыянальныя строі.

З 1 студзеня свята прадоўжылася ў гістарычных Базыльянскіх мурах, сцены якіх шмат што "памятаюць". Доўгі калідор, зала, запоўненая людзьмі, — вучні, бацькі, настаўнікі, гімназісты, тыя, хто цікавіцца гісторыяй.

Выступіла доктар філалагічных навук — выпускніца Віленскай беларускай гімназіі Галіна Войцік-Луцкевіч. Яна падзялілася ўспамінамі пра вучобу, асабліва ўразіў расповед пра настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры, якія тады працавалі: Алена Сакалова-Лекант, Н. Чарняўская, Антон Луцкевіч, Максім Гарэцкі, Ігнат Дварчанін, Х. Ільяшэвіч, мастацкай студыяй кіраваў Язэп Драздовіч, хорам — Р. Шырма. Таму і называюць гімназію кузняй беларускай інтэлігенцыі.

Многія выкладчыкі аддалі жыццё за беларускасць, правялі дзесяткі гадоў за кратамі, але не здрадзілі сваім ідэалам незалежна ад абставін, гэтаму яны вучылі і сваіх вучняў.

Па ўсім свеце раскідаў лёс выпускнікоў, але яны ўсюды захоўваюць беларускасць. Гэта Н. Арсеннева, В. Жук-Грышкевіч, В. Тумаш, Х. Ільяшэвіч, Л. Луцкевіч, М. Рулінскі, Б. Кіт і іншыя. "Многа напісана ўспамінаў пра гімназію, шмат сабрана матэрыялаў, Зоськай Верас і Лявонам Луцкевічам зроблены фотаальбом, але гісторыя Віленскай беларускай гімназіі заслугоўвае навуковай грунтоўнай працы", — сказала ў сваім выступленні Г. Войцік-Луцкевіч. І хто ведае, можа прыйдзе час, і выпускнікі адроджанай Віленскай беларускай школы, адзінай у Літве, напішуць навуковыя кнігі і пра гімназію, і пра школу. Бо ў школе з пачатку яе заснавання збіраецца пакрысе матэрыял для музея, гісторыі, нашчадкаў. На свяце выступіў Мікола Рулінскі — былы вучань гімназіі, ён адзначыў дзейнасць ТБК і кіраўніка Х. Нюнькі ў захаванні памяці, адкрыцці шыльдаў у гонар беларускіх дзеячаў.

Дырэктар беларускай школы Вільні Г. Сівалава расказала пра гісторыю адкрыцця, станаўленне, сучасны стан навучальнай установы. Павіншавалі "старажылаў" школы, тых, хто першымі прыйшлі вучыцца ў першы клас: Бука Наташа і Шавыраў Толік зараз вучні сёмага класа. Віншаванні, кветкі гімназістам, слёзы радасці. У канцэрце школьнікаў гучалі песні на словы Н. Гілевіча, вершы Н. Арсенневай, Р. Барадуліна, прыехаў з віншаваннем і дзіцячы калектыў з Друскенік "Спадчына".

Хутка праляцеў час, шмат прыемных уражанняў ад пачутага і ўбачанага, ніхто не спяшаўся разыходзіцца. На жаль, гады нельга спыніць, "яны адыходзяць без вяртання, такія непаўторныя гады", як сказаў паэт, і з кожным годам нехта адыходзіць ад нас з гімназістаў, але расце маладое пакаленне.

Праз 20 гадоў Віленскай беларускай гімназіі будзе 100, школе — 25.

Да новых сустрэч!

**Леакадзія МІЛАШ.**
Вільня.



*Урачысты момант адкрыцця шыльды школы імя Ф. Скарыны. У цэнтры — дырэктар школы Галіна СІВАЛАВА.*



*Колішняя выпускніца Беларускай гімназіі прафесар Галіна ВОЙЦІК-ЛУЦКЕВІЧ і былая настаўніца Міраслава РУСАК.*

ГАЛЕРЭЯ МАЙСТРОЎ МАРГАРЫТЫ СТАРЫХ



# ДЗЯКУЙ САЛЬФЕДЖЫЮ І МАМЕ

*...Іншы раз яна іграе ў дуэце з Ванесай Мэй, якую абажае. Ставіць касету з запісамі гэтай цудоўнай скрыпачкі, бярэ ў рукі сваю скрыпку... І ў гэтыя імгненні ёй мроіцца, што гэта яна сама стаіць на сцэне вялікай канцэртнай залы. Ірына КУЛЕЦКАЯ заўсёды марыла стаць скрыпачкай, але не змагла пераадолець у сабе страх перад сальфеджыо — гэтым сапраўдным "пакараннем" для юных музыкантаў. У сваіх музычных прыхільнасцях аддае перавагу року, але любіць слухаць жывую музыку, а не запісы. З беларускіх рокгруп больш за ўсё ёй падабаецца "Палац".*

НЕЛЬГА сказаць, што з марай стаць скрыпачкай яна спакойна рассталася, але ўсё ж згадзілася з рашэннем сямейнага савета — паступаць дачушцы ў Бабруйскае мастацкае прафтэхвучылішча, якое ў свой час скончыла Марыя Мікалаеўна, яе мама. Тым больш, што Ірачка любіла маляваць з дзяцінства, а калі ёй было 12 гадоў, мама паслала яе малюнкі ў "Чырвоную змену". Малюнкі ў рэдакцыі спадабаліся, і іх выкарыстаі ў якасці заставак. З той пары Іра Кулецкая супрацоўнічае з гэтай газетай, а з нядаўняга часу і з літаратурным маладзёжным часопісам "Першацвет". Але гэта, можна сказаць, хобі. У вучылішчы ж спасцігала яна мастацтва роспісу па дрэву і інкрустацыі саломкай. Строгія былі педагогі, але цяпер яна разумее: патрабаванні іх былі на карысць ёй. Калі вярнулася ў родныя Пружаны, акрамя гэтага занялася разам з мамай іканапісам — заказы ёсць, таму што адна за другой адкрываюцца сельскія цэрквы. Ды і блізка ёй гэта, па душы: у свой час спявала Ірачка ў царкоўным хоры, нядзельную царкоўную школу скончыла. Нядаўна асвяцілі іх ікону для царквы Святога Мікалая ў вёсцы Шарашова.

А яшчэ неяк захацелася Ірыне паўтарыць роспіс па шклу, убачаны ў вёсцы Кабылаўкі. Пружаншчына і тыя ж Кабылаўкі ў свой час не толькі сваім ганчарствам славіліся, але і гэтымі работамі — што-небудзь і цяпер можна сустрэць. З гэтай мэтай абхадзілі і аб'ездзілі мама з дачкой усе бліжэйшыя ад райцэнтра вёскі. Калі Ірына расказвае аб тых "распісных шкельцах", яна пачынае ўсміхацца і быццам свеціцца знутры:

— На іх так прыемна глядзець. Лебедзі, галубы, звяркі... усе яны быццам жывыя, а вочы ў іх добрыя-добрыя. І ўвогуле столькі чысціні і душы ўкладзена ў кожную работу і нейкага асаблівага сэнсу!.. Спачатку я паўтарала тыя сюжэты, манеру роспісу, а цяпер і сваё нешта ўношу. Але не толькі шкло мне цікавае. У адным доме ў бабулькі мы з мамай убачылі шыкоўны распісны дыван — ажно дух захапіла. Ён такі святочны, колеры незвычайна яркія: сіні, зялёны, чырвоны, фіялетавы... Я потым усё гэта для роспісу па дрэву выкарыстала.

Можа, павага да рукатворных рэчаў, што створаны даўней, захапленне імі ідзе і ад таго, што з маленства прывучана Ірына шыць, вязаць. І, вырасшы, усё роўна аддае яна перавагу самаробнаму адзенню — "яно і мацнейшае, і арыгінальнае".

На нядаўняй рэспубліканскай выставе народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва "Жывыя крыніцы", што экспанавалася ў сталічным Палацы мастацтва, былі і работы дзевятнаццацігадовага майстра Ірыны Кулецкай з Пружан. Крыху наіўныя і мілыя карцінкі, як таго патрабуе і сам жанр традыцыйнага роспісу па шклу. Два галубкі, карзінка з кветкамі і коцікам — даніна мінуламу і дарагому. А вярбныя букеты Ірыны — мінулае ў сучасным стылістыцы.

Гэта другая буйная выстава ў жыцці пачынаючага майстра. Першая — "Калядныя ўзоры" Саюза майстроў народнай творчасці, якая экспанавалася ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры. А да таго — рэгулярны ўдзел у падобных гарадскіх, раённых і абласных выставах. Магчыма, сюрпрыз паднясе Ірына і ў наступную сустрэчу — яна лёгка загараецца, захапляецца і не адступае ад задуманага. Таму і першая няўдалая спроба паступлення ва ўніверсітэт культуры на аддзяленне культуралогіі па спецыяльнасці народныя рамёствы не ахаладзіла яе. У мінулым годзе Ірына Кулецкая зрабіла другі заход — паспяховы. Упэўнена, што вучоба не стане перашкодай для творчасці, і роспіс па шклу цэлага цыкла народных святаў, пор года, які Ірына задумала, можна будзе ўбачыць на адной з будучых выстаў.



*Роспіс па шклу.*

*Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ і Віктара СТАВЕРА.*

ФЕСТЫВАЛІ

## ПРЫЗ «ЗА ГУМАНІЗМ У МАСТАЦТВЕ» АТРЫМАЎ БЕЛАРУСКІ КІНАРЭЖЫСЁР

**На IX адкрытым кінафестывалі неігравога кіно "Расія", што прайшоў у Екацярынбургу, беларускі кінарэжысёр Сяргей Галавецкі за стужку "Медагляд" (сцэнарый напісаны ім у сааўтарстве з журналісткай Людмілай Сяліцкай) атрымаў прыз "За гуманізм у мастацтве". На фестывалі было прадстаўлена 46 стужак краін былога Савецкага Саюза.**

...У вёсцы Прудок Касцюковіцкага раёна з 400 жыхароў засталося толькі 9. Але жывуць яны сваім, адладжаным вякамі рытмам, сваімі сялянскімі клопатамі. І толькі раз у год сюды наведваецца аўтамабіль-іншамарка з чырвоным крыжам — брыгада ўрачоў з раённай бальніцы робіць традыцыйны медагляд. Пакінуўшы неабходныя лекі, яны едуць далей, у наступную вёску, дзе засталося 5 чалавек...

Тут, у Прудку, як і ў навакольных вёсках, высокая радыяцыя, і жыхары пакінулі родныя мясціны. Засталіся толькі адзінкі, якія вырашылі дажываць век на сваім дварышчы, у роднай хаце. Ціхі, нягучны ў прастаце сваёй, з нулявым пафасам, без трагічнага надрыву фільм "Медагляд" робіць, тым не менш, ашаламляльнае ўражанне, выклікае спачуванне да нашай бяды, што прынёс Чарнобыль, нават у людзей, якія шмат чаго бачылі і перажылі. Сяргей Галавецкі прызнаецца:

— Відаць, існуе пэўны тэрмін маўчання, каб да канца адчуць усю трагедыю. Для мяне гэты тэрмін скончыўся. Мне проста неабходна стала замовіць слова за гэтых людзей, якія не скардзяцца, не крычаць аб сваёй трагедыі, а дажываюць свой век так, як прызвычаіліся. Для іх пераехаць кудысьці — ніby на Месяц адправіцца.

Калі толькі пачынаў здымкі фільма, я не быў прасякнуты пафасам чарнобыльскай бяды. Але гэтыя людзі... яны нешта перавярнулі ўва мне. Праглядаючы адзняты матэрыял, я адразу зразумеў, якім значным стаў для мяне гэты фільм. Ён не проста пра Чарнобыль, а пра адыходзячы Космас сялянскай абшчыны. І трагедыя наша чарнобыльская — гэта сучасная Хатынь, гэта рубец лёсу. Так, жыццё мяняецца, хутка мы ўвойдзем у XXI стагоддзе. І разбураецца Космас сялянскай абшчыны, але без Чарнобыля ён бы адыходзіў менш трагічна, больш натуральна...

Добра быў сустрэты на фестывалі і фільм-роздум "Вечная тэма" аб моладзі беларускага кінадакументаліста Віктара Аслюка.

Галоўны прыз атрымала стужка Сяргея Гаварухіна "Праклятыя і забытыя" (тэма Афганскай вайны), прызамі адзначаны таксама фільмы Сяргея Дварцового "Хлебны дзень" (поўнаметражны), Віктара Касакоўскага "Павел і Ляля", спецыяльны прыз атрымала трохгадзінная карціна Алесі Фокінай "Выбраннік" пра Аляксандра Салжаніцына. Усе гэтыя фільмы расійскай вытворчасці.

**Ніна ШАМШУРЫНА.**

НОВЫЯ ВЫДАННІ

## ПРА ДЗЯДУЛЮ, ПРА БАБУЛЮ...

Выдавецтва "Юнацтва" падрыхтавала да друку кнігу паэта Леаніда Пранчака "Пра дзядулю, пра бабулю і пра іх унучку Юлю". Леанід Пранчак вядомы хлопчыкам і дзяўчынкам па кнізе "Дзяўчынка-беларуска", а таксама як аўтар дзіцячых песняў, у тым ліку і "Калыханкі", якая з 1989 года штодзённа гучыць у вячэрняй казцы Беларускага радыё.

Шматлікія вершы паэта ўключаны ў школьныя падручнікі, хрэстаматыі, чытанкі, друкаваліся ў зборніках "Заранка", "Сцяжына", "Акрайчык", "Пралеска", "Ласкавае сонейка" і іншых, рэкамендаваных да выдання Навукова-метадычным цэнтрам вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі РБ.

Новую кнігу склалі займальныя вершы, вясёлыя песні, жартаўлівыя байкі, лічылкі, дражнілкі, скорагаворкі, а таксама вершаваная казка "Афрыканская вандроўка".

Кніга ілюстравана каляровымі малюнкамі, мае цвёрдую вокладку. Адрасуецца дзецям дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту, іх бацькам, настаўнікам роднай мовы і літаратуры, выхавальнікам дзіцячых садзікаў.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ,**
**галоўны рэдактар**
**выдавецтва "Юнацтва".**

## НА КАРЫСЦЬ ПОЛЬШЧЫ І БЕЛАРУСІ

Споўнўся год, як у Мінску дзейнічае Польскі інстытут. За гэты час інстытутам ладзіліся мастацкія і фотавыставы, канцэрты, прагляды кінафільмаў, навуковыя канферэнцыі. Дырэктар інстытута спадар Томаш Нягодзіш здолеў наладзіць добрыя кантакты з людзьмі мастацтва і навукі. Культурніцкія акцыі Польскага інстытута набываюць усё большы рэзананс.

Польшча была для некалькіх пакаленняў беларускіх інтэлектуалаў "акном у Еўропу". Такім чынам, Польскі інстытут мае ў Беларусі моцнае апірышча. Беларусі і Польшчы неабходна паразуменне, і найпрасцей знайсці яго ў культурнай галіне. Гэтым і займаецца Польскі інстытут у Мінску.

У бібліятэцы імя Янкі Купалы адбылася сустрэча дырэктара і супрацоўнікаў інстытута з мінскай грамадскасцю. Слова бралі Томаш Нягодзіш, Алесь Анціпенка, Вячаслаў Ракіцкі. Спадар Ракіцкі слушна заўважыў: хоць Польскі інстытут працуе ў Мінску толькі год, але здаецца, што ён быў тут заўжды. Многія з тых, хто браў удзел у праграмах інстытута, згадзіліся б з гэтымі словамі.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**

«Голас Радзімы»

Рэдактар
Наталля САЛУК

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 604 экз. Індэкс 63854. Зак. 327.
Падпісана да друку 22. 02. 1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

НАШ АДРАС:
220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 13-31-97,
13-32-80, 13-30-15,
84-76-56, 13-37-82.